


# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 19 (1106) ГОД XXII БЕЛАСТОК 8 МАЯ 1977 г. ЦАНА 60 гр.



Аднак вясна...

Фота В. Рудчыка.

## Гутарка дзядзькі Максіма

## Чаго я не сказаў на сходзе

Вечарам зайшоў да мяне солтыс. Пасядзеў, папяросу выкурыў, у тэлевізар паўзіраўся, бо якраз цікавы тэатр паказвалі...

— Засядзеўся я ў вас, дзядзька Максіме, — адазваўся ён урэшце, — засядзеўся і аб справе забыў.

— Спраў на свеце ды самых розных цьма-цьмушчая, — гавару я яму. — Ты пра чалавека не забывай. Гэта найважнейшая справа.

— Заўтра сход будзе ў нашай вёсцы, — кажа солтыс. — Прыедзе начальнік гміны і яшчэ нехта, мабыць, з ваяводства... Па справе пенсій для сялян. Дык можа б вы, дзядзька Максіме, выступілі на гэтым сходзе і сказалі, што мяркуеце аб гэтым...

Што я мяркую? Не адзін раз прыйшлося мне над гэтым задумацца, бо старасць ужо недалёка і за маімі дзвярыма. Пакуль што на здароўе не наракаю. Але праз 7-10 гадоў... У горад перасяліцца? А горад мяне зусім не маніць. Старых дрэў, як кажуць, не пересаджваюць, бо яны тут жа засыхаюць. Для селяніна найлепшай жыццёвай апорай з'яўляецца зямля-кармілелька. І таму наш брат, мужык, хай і найбагацейшы, заўсёды з непакоем сустракаў сваю старасць. Неяк увайшло ў традыцыю вясковага быту, што старых іх дзеці найперш пераводзілі з прасторных пакояў за печ на кухню, а пазней яшчэ перасялялі ў камору, а здаралася, што проста выганялі ў хлеў. Стары — непатрэбны.

Калісьці жыла ў нашай вёсцы старая Кастусіха. Гаварылі, што яна, вяртаючыся з бежанцаў, прывезла залатыя манеты. Насіла іх у мяшочку на грудзях і ніколі з імі не расставалася. Аднойчы, калі спала, уласны сын адабраў у яе гэты скарб, а Кастусіха пайшла ад хаты да хаты за ласкавым хлебам. Зімой і летам — заўсёды босая, у адной і той жа світцы, прыкрытая вялікаю хусткаю. Заходзіла ў хату і, пахваліўшы бога, тут жа сядала на зямлі каля парога і магла так моўчкі сядзець цэлую гадзіну. Доўгія і зусім белыя валасы густою страхой прыкрывалі яе галаву і звісалі на плечы. Ніколі яна нічога ўтолас не прасіла. Толькі ў яе вачах адлюстроўваўся такі жаль, што ніхто (апрача ўласных дзяцей) не адмовіў ёй ані куска хлеба, ані кубка малака ці міскі нейкага супу. Пад'еўшы, яна пачынала гаварыць, ды як гаварыць! Казкі расказвала, пра дзівы розныя гаварыла... Аднойчы зімой ваўкі яе ў лесе на кускі разарвалі...

А вось у Трасцянцы, чуў, жыла бабулька Анна, якой да смерці прыйшлося адной дажываць, бо яе дзеці пасля навукі ў горадзе абсталяваліся. Адна з яе дочак і цяпер жыве ў Беластоку. Мае ўласную машыну і на гэтай жа машыне разам з мужам часам наведвала старэнькую маці. Толькі не дай бог нікому, ды і самім, такіх адведак! Прыязджалі яны на гэтай сваёй машыне, спыняліся ля хаты, бабулька адчыня-

(Працяг на стар. 4)

## З рэпарцёрскіх запісак

## На каго ў суд?

Калі б у вас выцягнулі з кішэні 230 тысяч злотых — што вы зрабілі б? Паімчаліся б у міліцыю і патрабавалі б адшукаць злодзея.

Калі б нехта ў якой-колечы ўстанове змахляваў бы такі ж капітал, дык адразу пайшла б у рух цэлая машынерыя, якую дзяржава паставіла на стражы грамадзянскага парадку. І гэта зразумела, і так яно павінна быць, і так бывае.

Аднак... на жаль, здараецца гэтае „а д н а к". Злачынства ёсць, затраты ёсць, а ў суд няма на каго падаць...

* * *

У рамках інтэнсіўнага развіцця жывёлагадоўлі спулдзельня прадукцыйная ў Вульцы Нурэцкай рашыла пабудаваць свінагадоўчы комплекс. Два свінарнікі для адкорму парсюкоў на 1200 штук кожны, уласная гадоўля свінаматак і парасят. **Ваяводскае праўленне сельскагаспадарчых капіталаўкладанняў** (WZIR) запрапанавала вульчанскім спулдзельцам **тыповы праект** пабудовы тучарні на 1200 штук кормнікаў, апрацаваны спецыялістамі з **Інстытута механізацыі і электрыфікацыі сельскай гаспадаркі** (IMER)

* * *

З горам-з бядою закончылі будаўнікі першую тучарню. Праектанты ганарыліся, што гэта апошні крык будаўнічай моды. Поўная механізацыя. Не трэба нават падсцілкі. Хопіць вадою змыць усялякую нечысць, і яна паплыве ў рэзервуар. З цэлай вёскі прыходзілі людзі паглядзець гэтае будаўнічае цуда. Больш вопытныя гаспадары, паглядзеўшы бетонную падлогу, крытычна круцілі галавой і паціху мармыталі:

— Ні хрэна тут не будзе. На гэтым бетоне свінні так вырастуць, як канюшына на пяску.

* * *

Старшыня спулдзельні ў Вульцы Нурэцкай **Фёдар Пытэль,** сябра майго дзяцінства, маркотна паглядзеў на мяне і замахаў рукамі:

— Хаця ты адчапіся ад мяне! Надаела ўжо мне гаварыць пра гэтыя хлеўні і пра свіней. Кожны дзень сядзяць тут нейкія інжынеры, а толку ад гэтага зусім аніякага. Толькі час забіраюць, працаваць не даюць.

Мала-памалу дабіўся я, у чым рэч. За першым разам спулдзельцы з Вулькі паставілі на адкорм 800 штук парсючкоў. Было гэта летам мінулага года. І адразу пачалася бяда. Ад першых тыдняў да свіней прычапілася хвароба чырвоныя плямы, якія пераходзілі ў адкрытыя лішаі. Ногі свіней выкрыў-

(Працяг на стар. 4)



## Беларуская песня — 77

Дуэт Людміла Грайко і Тамара Ільяшук з Бельскага белліцэя заняў першае месца ў катэгорыі сучаснай песні.

Фота К. Свідэрскага.

## Будні дзень кнігі на Сакольшчыне

Нават без спецыяльных анкет ды глыбокіх аналізаў відаць, як з году ў год павышаецца ўзровень адукацыі ў нашых сёлах і мястэчках. Не трэба таксама даказваць, што ў гэтым вялікую ролю адыгрывае кніга. Таму, здавалася б, на справу павелічэння кнігазбораў ды пашырэння чытальніцтва ўсе мясцовыя ўстановы і арганізацыі павінны хухаць і дзьмухаць. У жыцці бачым нярэдка іншы вобраз.

Возьмем Сакольшчыну.

У мінулым годзе гмінныя ўлады ў Крынках і Сухаволі палічылі кнігі лішняй раскошай і не далі на закуп кніг у свае бібліятэкі і іх філіялы нават і зламанага граша, іншыя ўпраўленні адкараскаліся ад гэтага абавязку жабрачымі падачкамі: Чарнавесь „ахвяравала" 15 тысяч злотых, Новы Двор — 20 тысяч, Шудзялава — 21 тысячу, адна-адзіная Саколка прадназначыла на набыццё новых кніг у бібліятэкі 200 тысяч злотых. У бягучым годзе фінансаванне новых набыткаў абяцае быць крыху лепшае, Шудзялава, напрыклад, прадназначыла 38 тысяч злотых, Чарнавесь — 30 тысяч, але Кузніца толькі 24 тысячы, Янаў жа ўсяго 14 тысяч. Сухавольскае гміннае ўпраўленне „сквітавала" свой абавязак 20 тысячамі.

Возьмем яшчэ і такую „дробязь". Вядома, што разам з ліквідацыяй паветаў былі ліквідаваны і павятовыя бібліятэкі, але толькі фармальна, бо на самай справе іх ператварылі ў гмінна-гарадскія бібліятэкі з захаваннем ранейшых абавязкаў у адносінах да іншых гмінна-гарадскіх, гмінных і філіяльных бібліятэк з тэрыторыі ў асноўным былога павету. Але што варты абавязкі без правоў?! Даводзіцца працаўнікам гэтай установы ўсюды ўсё выпрошваць ды вымольваць на правах далёкай ды беднай сваячніцы: „Злітуйцеся, дах працякае! Памажыце, няма дзе кнігі паставіць! Майце сэрца, у нас няма чым паліць у печы!" А ўпраўленні паступаюць па адвечнаму правілу паводзін усіх заможных ды важных: „Хачу дам, а хачу і не дам!"

Але адначасова на Сакольшчыне кніга мае многа верных прыяцеляў.

— У першую чаргу імі з'яўляюцца тыя сяляне, якія вядуць у сваіх вёсках бібліятэчныя пункты, — сцвярджае ды-

(Працяг на стар. 4)



*На гайнаўскай мэблевай фабрыцы каля новай партыі камплектаў „Пушча“, справа інжынер В. Філікс.*

МІНІ-ІНТЭРВ'Ю СА ЗДЫМКАМ

## Гайнаўская кропля

Як грыбы пасля дажджу, вырастаюць у нашых гарадах высотныя шматкватэрныя гмахі, на вёсцы і ў мястэчках усё гусцей высыпаюцца прасторныя і светлыя мураваныя дамы. Кожны навасёл імкнецца заставіць сваё новае жыллё элегантнай і практычнай мэбляй. Таксама і жыхары старога будаўніцтва не супраць памяняць сёе-тое са старызны на модныя „рэгалы“ ці вуглавую канапу, з якой так выгодна глядзець перадачы па тэлевізару...

— Асартымент нашых вырабаў невялікі: сегментны камплект „Пушча-74“, адпачынкавы састаў „Гайнаўка“, двухдзверныя шафы, канапы і выкладзінавыя пліты магоневыя, дубовыя і ясеневыя, — інфармуе кіраўнік гайнаўскай мэблевай фабрыкі інж. **Вяслаў Філікс** і ўсміхаецца: — На попыт на нашыя вырабы не наракаем, іх з рук вырываюць у кожным мэблевым салоне не толькі на Беласточчыне, але ва ўсёй Польшчы.

— І што вы робіце, каб гэтыя мары збыліся?

— Як толькі можам, з году ў год павялічваем сваю вытворчасць. У мінулым годзе мы даставілі на рынак 2 740 камплектаў „Пушчы“, а ў бягучым годзе даставім 3 500 камплектаў, „Гайнаўкі“ — адпаведна 8 700 і 10 000 саставаў, канапаў — 20 860 і 21 000 штук, шафаў — 756 і 1 300 штук, павялічым вытворчасць і выкладзінавых пліт.

— Значыць, наш беластоцкі пакупнік не будзе мець цяжкасцей з набыццём іх?

— У пэўнай ступені. Мы ж накіроўваем нашыя вырабы ў мэблевыя салоны ўсёй краіны. Паводле плана, на Беласточчыну мы накіруем 890 камплектаў „Пушчы“, 540 саставаў „Гайнаўкі“, 90 шафаў і 2 850 канапаў. Усё ж не так і мала, праўда?

Цяжка не згадзіцца з інжынерам Ф. Філіксам. Як бы там ні было, гэта не малая кропля... ў моры нашых мэблевых апетытаў.

**Ігнат Снарскі**
Фота аўтара

## На вакзале ў Саколцы

З чыгуначнага вакзала ў Саколцы ад'язджаюць людзі аж у дванаццаці напрамках. Таму ў пачакальні заўсёды многа пасажыраў. Але трэба сказаць праўду, на станцыі ў Саколцы маюць чым людзей пачаставаць. Ёсць буфет варшаўскага „Варса“, вельмі добра забяспечаны напіткамі і ежай. У кожную пару дня можна тут з'есці гарачы суп, бігас, макарон, флячкі і інш. Выпіць — гарачы чай, какао, малако і каву. З халодных напіткаў таксама ёсць усе. Цяпер вельмі часта пачуеш ад пасажыраў, што ў чыгуначным буфеце ў Саколцы ўсё змянілася на лепшае.

**Віт**

## Яшчэ раз пра Чэхі Арлянскія

Дзякуем „Ніве“ за артыкул пра „Музей“ у Чэхах Арлянскіх. Сёння паведамляем, што ёсць у нас і іншыя цікавыя рэчы. Вось, напрыклад, з той пары, калі вы змясцілі гэты артыкул, у вёсцы згінула святло (каб не відаць было музея — рэд.). Слупы стаяць, лямпачкі вісяць, ды чамусьці не свецяць. Во, дзіва!

Жыхары вёскі абяцалі нават даць свае нафтовыя лямпы, каб павесілі іх на слупах. Старыя яны, казалі, але будуць гарэць. Можа толькі „Ніва“ пастараецца нам памагчы купіць больш нафты, бо да гмінных улад у Дубічах Царкоўных жыхары вёскі не хочуць ужо хадзіць. Начальніка гміны мы не бачылі ў Чэхах ужо некалькі гадоў.

Калі так далей пойдзе, то Чэхі стануць „сучасным скансенам“. Пакінутая школа, развалены клуб селяніна, брак святла. Засталося толькі нам выйсці на вуліцу і заспяваць „Цёмная ноч — і Чэхаў не відаць“.

**Жыхары вёскі**
(Далей наступаюць прозвішчы)

ЛЮДЗІ ДОБРАЙ РАБОТЫ

### БАЦЬКА і СЫН



Да найлепшых гаспадароў у Чыжоўскай гміне належаць Ян Кобац і яго сын Мікалай, якія супольна вядуць 22-гектаровую гаспадарку ў вёсцы Клейнікі. Важнай галіной у іх гаспадарцы з'яўляецца вырошчванне бульбы. Бо на іх палетку яна пры адпаведнай апрацоўцы глебы найлепш удаецца, а што за гэтым ідзе, дык прыносіць гаспадарам значны даход. Асабліва ўраджайнымі з'яўляюцца „Уран“ і „Флісак“. З гектара збіраюць гэтых сартоў бульбы сама менш па трыста цэнтнераў. Бацька з сынам ахвотна кантрактуюць „Уран“, які мае многа крухмалу. Гэты сорт бульбы купляе на месцы клейніцкае сушыльнае прадпрыемства. Прадаюць яны не менш 70 тон бульбы, а збіраюць яе больш 100 тон.

Вырошчваюць таксама іншыя сельскагаспадарчыя расліны. Штогод сеюць два гектары рапсу і збіраюць да чатырох тон гэтага адборнага зерня. Са збожжавых у іх удаецца пшаніца і авёс, перш за ўсё „Флемінгсвайс II“. Пад іх адводзяць амаль чатыры гектары ворыва. Дзяржаве прадаюць усяго разам больш шасці тон рапсу, аўса ды пшаніцы.

Ян і Мікалай Кобацы намагаюцца механізаваць усе цяжкія палявыя работы. У іх ёсць уласны трактар і розныя сельскагаспадарчыя машыны. Ян Кобац здаўна карыстаецца машынамі. Ён першы ў сваёй вёсцы купіў сабе конны сеўнік, а затым шмат іншых машын. Цяпер разам з сынам рамантуюць кожную машыну, калі гэта толькі неабходна. Мікалай закончыў прафесіянальную школу ў Гайнаўцы, у якой навучыўся слёсарскаму майстэрству, ды працаваў у бельскім ПОМ-е пры рамонце розных складаных машын. Калі ён пераканаўся, што працаваць на гаспадарцы лепш аплочваецца, дык пакінуў працу ў горадзе і ўзяўся за бацькоўскую гаспадарку. І вельмі добра зрабіў. Яго пара рук, веды і ўменне вельмі прыдаюцца. А яшчэ нядаўна ён паспяхова закончыў курс кваліфікаванага гаспадара.

Цяпер Ян і Мікалай Кобацы гадуюць 25 кароў, у тым ліку дзесяць дойных. Прадаюць ад іх 16–20 тысяч літраў малака ў год. Малакоastаўляюць у мясцовую злеўню. У будучыні яны намераны завесці яшчэ больш мясных і малочных кароў. Як вядома, зараз дзяржаве патрэбна больш мяса і малака. Гэта добра разумеюць клейніцкія вопытныя земляробы. Таму іменна задумалі яны спецыялізавацца ў гадоўлі гэтай, а не іншай хатняй жывёлы. Для гэтага ў іх самыя спрыяльныя ўмовы: дзевяць гектараў добраўпарадкаваных нядрэнных сенажацяў і пабсішчаў, узорная абора з дробнай механізацыяй, стадола на два такі, цагляныя хлявы для маладняку і іншыя сельскагаспадарчыя будынкі. Раней гадавалі яны пераважна свіней. Па 40 і больш. Многа вепрукоў прадалі дзяржаве. Яшчэ і цяпер гадуюць дзве свінаматкі, ад якіх маюць некалькі дзесяткаў добрых парасят. Але зараз свінагадоўля ў іх не на першым плане. З-за кароў абмежавалі яны колькасць свіней.

Працалюбівыя гаспадары Ян і Мікалай Кобацы дасягнулі высокага матэрыяльнага ўзроўню. Жывуць у дастатку. У іх доме сучаснае хатняе абсталяванне, кран з вадою. Намераны яны яшчэ дабудаваць адзін-два пакоі. Мікалай мае аўтамашыну. Таму яшчэ ў гэтым годзе пабудуюць гаражы. Яны неабходны і для сельскагаспадарчых машын.

Тэкст і фота **Янкі Цялушэцкага**

## Настаўнік ад сэрца

Станіслаў Касцюк цяпер на пенсіі і жыве ў вёсцы Клейнікі. Калі ён быў яшчэ сам вучнем, памагаў сябрам у вучобе. Сябры любілі яго, і гэта давала яму вялікае задавальненне. Закончыўшы школу, рашыў далей вучыцца ў настаўніцкай семінарыі. Яшчэ да вайны Касцюк распачаў працу ў вёсцы каля Новага Сонча, потым крыху працаваў у Новым Сончы. Там пазнаёміўся з сваёй цяперашняй жонкай, таксама настаўніцай.

Пасля вайны гэты настаўнік працаваў далей кіраўніком школы ў Новым Сончы, а потым з сям'ёй пераехаў у школу ў Клейнікі, дзе таксама быў кіраўніком. У гэтай вёсцы Станіслаў Касцюк працаваў 17 гадоў. Вельмі любіў працу з моладдзю, любіў быць з імі, раіць ім. Забываў тады аб усіх уласных клопатах. Калі нават перайшоў на пенсію, яшчэ і тады падтрымліваў сувязі з моладдзю. Прыходзіў у школу на музычнае выхаванне і вёў школьны хор. Жонка і дачка Станіслава Касцюка таксама настаўніцы. Дачка працуе ў Новым Сончы. Цяпер, калі больш часу, настаўнік-пенсіянер любіць у цішыні гадзінамі пастаяць над берагам ракі з вудачкай.

**Кветка**

Аўтар, слухаючы гаспадара, прыходзіць да вываду, што паляшук або кантужаны, або, апавядаючы дзіўныя гісторыі, хоча дасягнуць нейкай, толькі яму вядомай мэты. Раніцай, пакідаючы хату палешука, аўтар чуе з-пад паветкі голас гаспадара, які дакарае прыгожую жонку за нейкія грахі.

З усёй сітуацыі аўтар робіць вывад, што ў той час, калі гаспадар быў на фронце, яго жонка пазволіла сабе на інтымную свабоду з праходзячымі салдатамі. Весткі аб яе ўчынку дайшлі да гаспадара, і ўсе ўчарашнія гутаркі палешука, ненатуральны голас, непаслядоўнасць, пэўная варожасць да салдат вынікалі якраз з гэтага факту.

Апавяданне „На этапе“ так, як і папярэднія творы з ваеннага цыкла, адзначаюцца крайнім аб'ектывізмам, хаця ў ім і выступае постаць аўтара. Аднак постаць гэтая абсалютна пасіўная. Аўтар тут толькі і выключна назіральнік, фатограф пэўнага здарэння. І ўсё ж такі, нягледзячы на поўную безэмацыянальнасць твора, адчуваецца, што аўтар хоча падкрэсліць дэструкцыйны, разрушальны ўплыў вайны на чалавечую псіхіку, сям'ю, жыццё. У гэтым і праяўляецца пацыфісцкі характар твора.

## Ф·А·Л·Ь·К·Л·О·Р

### ПРЫМАЦКАЯ




*Цвіла, цвіла чэрэшэнька,*
*то й ягуод нэ мае.*
*Хто ў прымаках нэ бывае,*
*то й гора нэ знае.*
*Хто ў прымаках нэ бывае,*
*то й гора нэ знае.*
*А я ў прымаках бывалы —*
*усё горэ знаю:*
*кулачэнькі пуод голову*
*то й спаті легаю.*
*Кулачэнькі пуод голову*
*то й спаті легаю.*
*— Ой, спіш, прымаку, спіш, прымак,*
*пора вжэ вставаті:*
*запрэгай сівые волы —*
*іді ў поле ораті.*
*Запрэгай сівые волы —*
*іді ў поле ораті.*
*Орэ прымак, орэ прымак,*
*на шлях поглядае:*
*„Чужы жуонкі обіед нэсут,*
*а моя снэдане.*
*Чужы жуонкі обіед нэсут,*
*а моя снэдане“.*
*Нэсэ жуонка обіедаті —*
*обіед той бэз солі —*
*зажурыўсе прымачэнько*
*бэз шчасця, бэз долі.*
*Зажурыўсе прымачэнько*
*бэз шчасця, бэз долі.*
*— Як нэ хочэш обіедаті,*
*еш хліеб і з водою,*
*запрэгай сівы волы —*
*езджай додому.*
*Запрэгай сівы волы —*
*езджай додому.*
*Едэ прымак, едэ прымак,*
*і ў трубочку свішчэ.*
*— Ховай, доньку, варэнікі —*
*едэ прымачышчэ.*
*Ховай, доньку, варэнікі —*
*едэ прымачышчэ.*
*Ідэ прымак, ідэ прымак,*
*на порог ступае —*
*ёму тёшча з сэмі місок*
*обіед ізлівае.*
*Ёму тёшча з сэмі місок*
*обіед ізлівае.*
*Едэ прымак, едэ прымак,*
*нэ ўспев з воза зліезті,*
*ёму тёшча заказуе:*
*— Нэсі свіням есті.*
*Ёму тёшча заказуе:*
*— Нэсі свіням есті.*
*— Бодай свіні выздыхалі,*
*а хата згорыэла,*
*Ой, як мніе тая прымацкая,*
*доля надоела.*
*Ой, як мніе тая прымацкая*
*доля надоела.*
*Вышлі сусед з суседкою*
*сталі говорыті:*
*— І твой прымак, і мой прымак*
*нэ ўмеют робіті.*
*І твой прымак, і мой прымак*
*нэ ўмеют робіті.*

Ад Веры Міхалюк, 56 год, вёска Курашава гм. Чыжы, запісаў 3 лютага 1977 года Мікалай Гайдук. Нотная транскрыпцыя з магнетафоннай стужкі Людмілы Панько.

## PAUL MC CARTNEY



### Фота па заказу

**Заказвалі:**
Э. Маркоўская, Д. Мразоўская, Б. Врублеўская, Б. Бароўская, М. Заянчкоўская, А. Банькоўскі з Бельска і Г. Гаінская і Г. Капчэская са Страблі.

## Сардэчныя тайны

Дарагое Сэрцайка, ужо дзесяць год я замужняя. Маю трое дзяцей, дзяўчыну і двух хлопцаў. Муж мой вельмі здольны, за што не возьмецца, усё зробіць. Людзі кажуць: „залатыя рукі". Дзеці, асабліва хлопцы, вельмі яго кахаюць, проста прападаюць за бацькам. Умее ён з імі і пагаварыць і пабавіцца, але... як цвярозы. А ўжо як папрабуе гарэлкі, дык цэлымі тыднямі не цверазее. Праўда, не ўпіваецца ён так, каб аж валяўся, на нагах заўсёды трымаецца. Але дахаты прыходзіць позна, часамі ноччу, а малышы чакаюць, чакаюць... Пытаюцца, калі прыдзе тата. Калі ўжо і вернецца, дык чапляецца, нішто яму не падабаецца, скандаліць. Дзеці перажываюць. А як цвярозага ўбачаць, цешацца, радасць у хаце. Але гэтай радасці, як у пахмурны дзень сонца — бліснула і зноў няма. Раней сварылася я з мужам, дзеці плакалі. І шкада мне іх стала. І цярплю, не сваруся, стараюся па-добраму гаварыць. Але муж лічыць, што нічога дрэннага ж ён не робіць. Дачка — найстарэйшая, ужо перастае яго шанаваць. Яна і буркне, і п'яніцам у вочы назаве. Баюся, што і з хлопцамі гэтак будзе. Гасне аўтарытэт бацькі ў хаце, а я бязрадная на ўсё гэта. Памажы, Сэрцайка!

Эля з Беластока

Эля! Сітуацыя цяжкая. Самае горшае, што муж не хоча зразумець сваёй віны. Яму ўжо трэба змагацца з сабой, а яшчэ лепш пайсці лячыцца, бо калі так будзе далей, ён са стадыі „п'яніцы", у якой цяпер знаходзіцца, пяройдзе ў стан „алкаголіка". І тады ўжо справа безнадзейная. Старайся яго ўсімі сіламі пераканаць у гэтым. І як мага дбай пра добрую атмасферу ў хаце, каб не скалечыць псіхіку дзяцей.

**Сэрцайка**

## Вер-не-вер

**Астроне!** Сніцца мне, быццам я сяджу ў летняй кухні. Раптам аглядаюся, бачу: стаіць карова і заглядае ў вакно. Я табурэткай хацеў адагнаць, карова не ўступала, і я быў змушаны стукнуць яе табурэткай па рагах. Калі я гэта зрабіў, яна знікла. Пасля дзвярыма ўбегла цяля, я яго без цяжкасці выкідваю з кухні. Было цёмна, гарэла толькі жоўтае святло. Я хацеў яго наладзіць, пайшоў круціць коркі, і мне ад электрычнага току зашчымела рука. Я піў брудную ваду, а ў вадзе была трава, якую я выплёўваў. Сніцца ў гэтым сне, што прыходзіць мой выхавацель са школы. Яго рукі забруджаны варанай з лупінамі бульбай. Ён рукі вымыў. Астроне, прашу, напішы, што абазначае гэты дзіўны сон.

Коля з Гайнаўшчыны

Пару месяцаў назад пазычыла я знаёмай грошы. І вось сніцца, што яна мне іх звярнула. Я трымаю поўную жменю грошай. Усе пяцісоткі і некалькі сотняў. Хачу іх палічыць, але ніяк мне гэта не ўдаецца. І так з гэтымі грашыма ў руцэ я апынулася каля могільніка.

Геня

**Коля з Гайнаўшчыны!** Твой сон прадвяшчае нейкую страту, ці хваробу, ці наогул смутак, бо ты біў жывёлу. Думаю ўсё ж, што будзе гэта нейкая хвароба: у сне табе зашчымела ад току рука, піў ты брудную ваду ды трава табе яшчэ перашкаджала, а апрача таго — брудныя, у бульбе, рукі настаўніка...

**Геня!** Сон прадвяшчае добрае. Грошы атрымліваць — прырост у сям'і, а могілкі абазначаюць здароўе і поспех у справах.

**Астрон**

## Кансультацыя юрыста

ПЫТАННЕ: Сёстры І. і Ф. жывуць на адным сялібным участку, які яны атрымалі ў спадчыне ад бацькі. І. пабудавала гумно, з якога сёстры карыстаюцца супольна. У апошні час паміж імі ўзніклі непаразуменні. І. патрабуе ад Ф. заплаты за карыстанне з гумна і пагражае падаць у суд, каб Ф. была прымусова выселена з гумна. Ф. ніколі не абавязвалася плаціць за карыстанне з гумна, паколькі гэта лічылася як сямейная справа. Ці можа І. патрабаваць заплаты за карыстанне з гумна і прымусовага высялення?

АДКАЗ: Як наследнікі сялібы І. і Ф. з'яўляюцца супольнымі ўласнікамі гэтай сялібы. Пакуль існуе супольная ўласнасць і пакуль сёстры супольна карыстаюцца з сялібы, у тым ліку і з гумна, І. не можа патрабаваць ані заплаты за карыстанне з гумна, ані прымусовага высялення Ф. з гумна. Гумно, незалежна ад таго, што пабудавала яго І. з уласнай маёмасці, з'яўляецца супольнай уласнасцю сясцёр, паколькі сяліба, на якой яно пабудавана, з'яўляецца іх супольнай уласнасцю, а будынкі з'яўляюцца ўласнасцю таго, на чыім грунце яны стаяць. Толькі пры падзеле супольнай маёмасці суд разлічвае выдаткі супольных уласнікаў на супольную маёмасць. У гэтым выпадку, калі гумно будзе прыдзелена І., то ад яе не належацца ніякія сплаты за гумно на карысць Ф., а калі б у выніку падзелу гумно прыпала Ф., то яна мусіла б звярнуць І. поўную вартасць гумна.

## Этнаграфічнае акенца



*Пасуда і бандарныя вырабы народных умельцаў В. Сцепанюка, Л. Валкавыцкага, М. Шыманюка і іншых з гміны Гайнаўка.* *Фота М. Гайдука.*

## Куток практычных ведаў






### ЦІ ВАРТА ЛІКВІДАВАЦЬ ВЯСНУШКІ?

Вясна, вясна, а разам з першымі промнямі веснавога сонца — неадлучныя вяснушкі, якія сталі зморай для многіх дзяўчат. „Што рабіць, каб іх пазбыцца?" — пытаюць трывожна тыя, якія ніяк не хочуць прывыкнуць да сваіх вяснушак.

Перш за ўсё варта ведаць, што вяснушкі належаць да найчасцей сустракаемых у маладым узросце пігментных парушэнняў. У сувязі з нераўнамерным размеркаваннем пігменту, у скуры ўзнікаюць плямкі — вяснушкі. Схільнасць да вяснушак перадаецца па наследству. Выступаюць яны найчасцей у людзей са светлай скурай, а таксама з рыжымі і каштанавымі валасамі. Зімой вяснушкі амаль цалкам знікаюць, але разам з першым веснавым сонцам паяўляюцца на адкрытых частках цела, значыць — перш за ўсё на твары і руках.

Вяснушкі можна затушаваць, паступова, але станоўча загараючы. Гэта будзе спрыяць пацямненню тых месц, якія знаходзяцца паміж вяснушкамі, і дзякуючы гэтаму будуць яны менш заўважальнымі.

Вяснушкі можна таксама выбельваць спецыяльнымі гатовымі крэмамі з трыма градацыямі. Пачынаць трэба заўсёды ад найслабейшага крэму. Можна таксама выкарыстаць спецыяльную мазь — Monobenzone, гэтую мазь можна атрымаць толькі ў аптэцы па спецыяльнаму рэцэпту лекара.

Пры ўсім гэтым трэба заўсёды памятаць, што першае ж выйсце на сонца пасля якога-колечы лячэння будзе спрыяць паяўленню новых вяснушак. У святле гэтага факту варта задаць сабе пытанне: ці варта на працягу некалькіх тыдняў цярпліва ліквідаваць вяснушкі, каб за некалькі сонечных дзён набыць іх зноў?

**Эскулап**




У гэтыя дні Аджымушкайскія каменяломні ператварыліся ў вялікі і густанаселены падземны горад. Увесь гэты лабірынт цёмных тунеляў і калідораў літаральна кішэў людзьмі. Колькі было тут народу — пятнаццаць, дваццаць, трыццаць тысяч? Гэтага ніхто не ведае, і паказанні сведак разыходзяцца тут у вельмі шырокіх межах. Каго тут толькі не было — рэшткі разбітых часцей са сваімі штабамі, групы салдат, што адбіліся ад падраздзяленняў і страцілі камандзіраў, пехацінцы і маракі, сапёры і артылерысты, медыкі і інтэндэнты. Але, вядома, галоўную масу людзей складала цывільнае насельніцтва.

Як толькі пачалося наступленне нямецкіх войск супраць Акманайскіх пазіцый і праціўнік пачаў бамбіць і абстрэльваць Керчанскі плацдарм, тысячы жыхароў Керчы і навакольных вёсак кінуліся шукаць сховішча ад нямецкіх бомб і снарадаў у выратавальныя каменяломні. Яны прыходзілі туды сем'ямі — жанчыны, дзеці, старыя, несучы з сабой чамаданы і клункі з пажыткамі і невялікім запасам прадуктаў. Яны прыйшлі сюды на некалькі дзён, адседзецца да таго часу, пакуль нашы войскі адаб'юць варожае наступленне, і яны зноў змогуць вярнуцца ў свае дамы. Але гэтым надзеям не суджана было збыцца — Керчанскага плацдарма больш не існавала, вораг зноў авалодаў усім узбярэжжам, і над іх галовамі ўжо хадзілі нямецкія салдаты. Мірныя жыхары апынуліся тут, у цёмных падземных норах, і лёс іх быў поўны невядомасці.

Натоўпы гэтых людзей, неарганізаваныя, прагна ловячы водгукі падзей, што адбываліся наверсе, лёгка падвержаныя паніцы, знаходзіліся ў пастаянным руху ўнутры падземнага лабірынта. Яны ўвесь час пераходзілі з месца на месца, адшукваючы родных і знаёмых, зноў губляючы іх у цемры, імкнучыся быць бліжэй да камандзіраў, шукаючы больш бяспечнае сховішча. Час ад часу сярод іх з хуткасцю маланкі разносіліся якія-небудзь трывожныя чуткі, і тады ў падзямеллях пачыналася паніка.

Маці падхаплівалі сваіх дзяцей і клункі з пажыткамі і кідаліся бегчы кудысьці ў цемру, сутыкаючыся адзін з адным, усюды чуўся дзіцячы плач, жаночыя крыкі, і ваенным з вялікай цяжкасцю ўдавалася наводзіць парадак і супакойваць гэты мітуслівы натоўп. І можна сабе ўявіць, з якімі неверагоднымі цяжкасцямі сустрэліся камандзіры, якія ўзялі ў гэтыя дні на свае плечы нялёгкі цяжар арганізацыі жыцця і абароны падземнага горада. У іх не было нават плана размяшчэння каменяломняў, яны не маглі ўлічыць усіх людзей і наладзіць забеспячэнне неабходным харчаваннем і вадой гэтага цякучага натоўпу, які бесперапынна перамяшчаўся па цёмных лабірынтах.

І ўсё ж яны зрабілі ўсё, што можна. Ужо ў пачатку баёў старшыя камандзіры, якія апынуліся ў падзямеллях, стварылі штаб абароны каменяломняў. Камандаванне гарнізонам Аджымушкая прыняў на сябе палкоўнік Павел Максімавіч Ягуноў. Гэта быў удзельнік грамадзянскай вайны, кадравы афіцэр Чырвонай Арміі, які ў 1941 годзе займаў пасаду начальніка Бакінскага пяхотнага вучылішча, а пазней змагаўся на фронце і камандаваў адной са стралковых дывізій, што знаходзілася на Керчанскім плацдарме. Саракагадовы батальённы камісар Іван Паўлавіч Парахін, вопытны палітработнік, стаў яго намеснікам па палітычнай частцы, капітан Лявіцкі — начальнікам штаба, інтэндэнт Жалтоўскі — начальнікам забеспячэння. Баявыя батальёны гэтага „палка абароны Аджымушкайскіх каменяломняў", як пазней пачаў называцца гарнізон, узначалілі танкіст падпалкоўнік Рыгор Бурмін, пехацінец палкоўнік Фёдар Верушкін і камандзір падраздзялення марской пяхоты Аркадзь Паноў. Кожнаму з батальёнаў было даручана абараняць пэўны ўчастак каменяломняў, каля ўсіх выхадаў наверх і каля спецыяльна прабітых амбразур пастаянна дзяжурылі назіраль-

